


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

4 мая 2001 года

№ 18 (315)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Пра ацяпляльныя сезоны

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пасля "адабрэння" у выканкоме леташняга ацяплення ў горадзе пачалі рыхтавацца да наступнага.
Да 20 мая кіраўнікам прадпрыемстваў загадалі распрацаваць мерапрыемствы па падрыхтоўцы аб'ектаў энергазабеспячэння і энергакамунікацый да работы ў асенне-зімовы перыяд 2001–02. Кантроль за выкананнем рашэння ўскладзены на першага намесніка старшыні гарвыканкома **Яфіма Ідэльчыка**.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Чарговы медаль «Каханай...»

**МЯДЗЕЛ.** На 4-м міжнародным конкурсе-дэгустацыі «Піва, віны, напоі», што праходзіў у Мінску, серабро дасталося віну «Каханай жанчыне». Зрэшты, з прадукцыі УП «Ілаўскае» гэты адзіны від віна і ўдзельнічаў у конкурсе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Зігзагі лёсу чыноўніка

**ВАЛОЖЫН.** Амаль 5 год таму ля вёскі Калдыкі загінуў студэнт. У прэзідэнцкай «Советской Белоруссии» тады з'явілася інфармацыя аб рашэнні зняць з работы старшыню райвыканкома **Валянціна Малішэўскага**.
Некаторыя тады ўбачылі ў гэтым помсту – раён падчас прэзідэнцкіх выбараў падтрымаў свайго земляка **В. Кебіча**.
Валожыншчына сабрала подпісы ў падтрымку старшыні райвыканкома і даслала ў Мінск. Прэзідэнт у сваім лісце прасіў прабачэння ў валожынцаў: маўляў, матэрыялы трапілі на старонкі «Советской Белоруссии» зачаста.
Днямі распараджэннем А. Лукашэнкі за вялікі асабісты ўклад у выкананне дзяржаўных праграмаў па мінімізацыі і пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС В. Малішэўскаму аб'яўленая падзяка.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Новыя тэхналогіі ДРБУ-49

У сярэдзіне мая ДРБУ-49 будзе ўкладваць дарожнае пакрыццё па прынцыпова новым метадзе.
Спецыяльныя дабаўкі паставіла шведская фірма AKZO NOBEL. Летась ДРБУ для эксперыменту паклала 53 кіламетры пакрыцця. Яно захоўвае ўсе свае якасці да цяперашняга часу. За змену можна пакласці 2,5 кіламетра дарог шырынёй 7 метраў. Першы заказ – на 350 кіламетраў пакрыцця – ДРБУ выканае па-за межамі рэгіёна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
**Пакуль шведская ўстаноўка для падрыхтоўкі новага бітуму стаіць на тэрыторыі ДРБУ-49.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 5 мая

**Мінск**
**7 – 9**°С (уначы)
**15 – 19**°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
18°С (удзень)



Нядзеля, 6 мая

**Мінск**
**8 – 10**°С (уначы)
**14 – 17**°С (удзень)



**Вільня**
11°С (уначы)
19°С (удзень)



# 56 год без вайны

**МАЛАДЗЕЧНА. Першым дзіцем-2000 у горадзе стаў Кірыл Нехвядовіч. Праз тыдзень пасля Дня Перамогі, за які змагаліся і яго прадзеды, хлопцу спаўняецца 500 дзён.**

– Першае слова ў яго было "баба". Дарэчы, з бабулямі Кірыл лёгка знаходзіць агульную мову, з бацькам – гэта ўвогуле залатое дзіця. А вось калі ён са мной, то бываюць капрызы, – гаворыць мама Наташа.

Цяпер бацькі – Алега – дома няма, паехаў у камандзіроўку за мяжу. Прыедзе – не пазнае сына. Калі Алег тэлефануе дадому, абавязкова просіць даць трубку Кірылу, і яны там пра нешта сваё гавораць.

На 500 дзён з дня нараджэння Кірыла Алег павінен вярнуцца дадому.

– Так атрымалася, што ўсе самыя важныя моманты ў жыцці малы рабіў разам з бацькам, – успамінае Наталля. Гэта і першая ўсмешка, і першыя крокі, і другое слова ў яго было менавіта "тата".

– Алег і спавівае дзіця, напэўна, нават лепш за мяне. Што тужэй, дык гэта дакладна, – гаворыць маці.

Без бацькі цяжэй выхоўваць сына. Калі прывучалі Кірыла засынаць без закалыхвання, бацька яму нешта пашаптаў – сын спакойна заснуў. Цяпер, калі Алег прыедзе, яму нанова давядзецца паказваць свае здольнасці. Тая ж бяда, калі трэба закапаць кроплі ў нос. Калі бацька возьмецца, то ўсё добра, калі нехта іншы – Кірыл ні ў якую.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Кожны сапраўдны мужчына цікавіцца аўтамабілямі, – лічыць Кірыл Нехвядовіч.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Што вы паспелі зрабіць на дачным участку?



**Вацлаў Сакалоўскі, пенсіянер:**
– Дача ў мяне ў некалькіх кіламетрах ад Маладзечна. Бульбу, цыбулю, часнок, кроп пасадзіў. Добра, што прайшоў дождж. Кажуць, дажджы ў маі – чакай ураджаю.
Летась у гэтую пару не было дажджоў, а сёлета я спадзяюся на добры ўраджай.



**Ніна Мінкоўская, работніца:**
– Пасадзілі ўсё. Нават збіраем ураджай: цыбулю, радыс, салату, кроп. На падыходзе агуркі. Гэта маё хобі. Добрых грошай не заробіш, але да зарплаты прыбаўка ёсць.



**Аляксей Лукашук, друкар:**
– Абрабляў дрэвы і кусты. У мяне на дачы іх некалькі дзесяткаў. Пасадзіў цыбулю, часнок, буракі, морквy, радыс, расаду пад капусту, прапалоў клубніцы. Цяпер паеду ладзіць парнікі.



**Вольга Курловіч, гандлюе на рынку:**
– Апошні раз бабулю наведвала з месяц таму. Яна жыве на Вілейшчыне. Той раз я адпачывала, дачны сезон яшчэ не распачаўся.



**Аляксандр Чэлышаў, прадпрымальнік:**
– Асабістага дачнага ўчастка ў мяне няма. Бабулі пакуль дапамагаю і ўсё. На выхадныя рабілі падрыхтоўчыя работы. Цяпер будзем садзіць бульбу.



**Вольга Закрэўская, выпускніца палітэхнікума:**
– Для бацькоў дачны сезон пачаўся. А я ў выхадныя працую, таму няма часу.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**

# Гарпарк адкрыў сезон



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Традыцыйна напярэдадні 1 мая адкрываюць чарговыя сезоны гарадскія паркі рэгіёна. Сёлета спрыяла адпачынку наведвальнікаў добрае надвор'е. У Маладзечне людзі на выхадныя ішлі ў парк актыўна.

■ 90 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У "НАШАЙ НІВЕ"

Дв. **Каспэраўшчына,** Віленск. губ. Вілейск. пав. Запустамі два хлопчыкі-вучэнікі гімназіі, сыны доктара Наводнічанскаго, пайшлі ў лес на палеваньне за вавёркамі. У лесі разыйшліся. Адзін з іх у жоўтым кажушку палез на густую вялікую елку выгнаць с сукоў вавёрку, і стаў клікаць брата. Той стаў падхадзіць на голас, але здалёку – праз гушчу угледзіў на елцы нешта жоўтае і, доўга ня думаючы, злажыўся – стрэліў і ўсадзіў 42 шраціны брату ў самыя грудзі. На шчасьце бедны хлопчык меў яшчэ столькі сілы і памяці, што затрымаўся на дрэве і неяк памаленьку зьлез. Цяпер ён у бальніцы у Менску і ўжо папраўляецца, шраціны нарываюць і самі выходзяць на верх.

■ ІМЯНІНЫ

**4 мая**
Праваслаўныя: **Дзяніса, Фёдара, Яўціхія.**
Каталіцкія: **Монікі, Фларыяна.**

**5 мая**
Праваслаўныя: **Варфаламея, Віталя, Гаўрылы, Клімента, Лукі, Усевалада.**
Каталіцкія: **Ірэны, Вальдэмара.**

**6 мая**
Праваслаўныя: **Аляксандры, Анатоля, Георгія.**
Каталіцкія: **Юдзіты, Дамініка, Яна.**

**7 мая**
Праваслаўныя: **Елізаветы, Аляксея, Валянціна, Лявонція, Савы, Фамы, Яўсевія.**
Каталіцкія: **Людмілы, Бенядзікта, Людаміра.**

**8 мая**
Праваслаўныя: **Марка, Сільвестра.**
Каталіцкія: **Віктара, Станіслава.**

**9 мая**
Дзень Перамогі

**10 мая**
Праваслаўныя: **Сямёна, Яўлога.**
Каталіцкія: **Антаніны, Антона, Ісідара, Яна.**

■ ГАСТРОЛІ

## Водгукі пра жывёл зоатэрарыума

**Па рэгіёне ездзіць зоатэрарыум. Пасля Мядзела і Вілейкі напярэдадзе ў яго Смаргонь і Маладзечна. Вось што пішуць у кнізе водгукаў наведвальнікі з Мядзела.**

– Дзякуй! Але лепш адпусціце жывёл.

Лічу, калі выпусціць тэеру (Паўднёвая Амерыка), манокелевую кобру (Азія), армянскую гадзюку (Каўказ) і самую ядавітую тэхаскую грымучую змяю (Паўночная Амерыка), каймана (паўзун, сямейства алігатараў), дык адпачынак у тэтым сезоне на курортах возера Нарач можа не адбыцца.

На шчасце, змеі ні разу не ўцякалі. А вось кубінскі таракан (памерам з пачак запалак) аднойчы зляцеў (гэта ён добра можа). Прыбіральшчыца страціла прытомнасць. Але засталася жывая.

Наступны водгук:
– Кураня шкада.

А вось і не. Змей і паўзуноў кормяць пацукамі. І толькі тыгравага пітона (Паўднёва-Усходняя Азія, памерам больш за 3 метры) кормяць трусамі. З'еў 3–4 штукі і адпачывае 1,5 месяца.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ ВАНДАЛІЗМ




Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Вандалізм межаў не мае і скіроўвае свае замахі на ўсё без разбору. Маладзечна, «Сцяна памяці» па вул. Валынца: невядомыя адарвалі некалькі плітак (у тым ліку, нядаўна – з прозвішчамі загінуўшых воінаў-афганцаў), не пашкадавалі і ліхтар. «Мы ганарымся вамі...» – такі ўжо гонар у некаторых нашых суродзічаў.**

■ ДНІ

5 мая – **Дзень друку.**
6 мая – **240 год з дня нараджэння С. Юндзіла** (1761–1847), вучонага ў галіне прыродазнаўства, заалогіі, батанікі.
7 мая – **Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі.**
**90 год з дня нараджэння К. Касмачова** (1911–1992), беларускага жывапісца і графіка.
1966 – **Адкрыццё ў Мінску Палаца спорту.**
8 мая – **Сусветны дзень Чырвонага Крыжа і Чырвонага Месяца.**
9 мая – **90 год з дня нараджэння С. Ліхадзіеўскага** (1911–1979), беларускага паэта і літаратуразнаўцы.
**Дзень Перамогі**
10 мая – **70 год з дня нараджэння С. Гаўрусёва** (1931–1988), беларускага паэта і крытыка.

■ ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## Вінаваты радыеактыўны туман

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Заазер'е Любанскага сельсавета (матэрыял у мінулым нумары "РГ") радыяцыйны фон у норме.**

– Ён складае 12 мікрарэнтген у гадзіну. У Маладзечне, прыкладам, перад аварыяй было 14 мікрарэнтген, – гаворыць галоўны ўрач Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіл Міхалевіч.** – Радыяцыйныя воблакі з Чарнобыля праходзілі праз гэтыя мясціны. Але аселі яны, большай часткай, у лясах. Навукоўцы гаварылі, што цэзію-137 там у 10 разоў болей, чым на адкрытых месцах. Праз некалькі дзён пасля аварыі паласой ад Даманава праз Любань, Заазер'е і далей на Мядзельшчыну прайшоў туман. Паласа гэтая месцамі дасягала шырыні да кіламетра. Гэтым і тлумачыцца, што ў тых мясцінах трапляюцца радыеактыўныя грыбы.

Жыхары Заазер'я гоняць сваіх кароў у лес, і нашыя пробы часцяком гавораць, што цэзію-137 там больш за норму. Заазерцы таму і маюць права на адсяленне, што тэарытычна яны могуць набіраць вялікую дозу радыяцыі ад прадуктаў харчавання. Акрамя малака, у тых мясцінах радыеактыўныя могуць быць і грыбы з ягадамі.

**Запісаў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КІНО

## Нашы і Галівуд

Міжнародны інстытут імя Гётэ ў імя пакаяння перад яўрэйскім народам за генацыд у час другой сусветнай вайны распрацаваў праект па здымцы фільма. Рабочая назва – "Бабін яр". На аснове рэальных падзей амерыканскі сцэнарыст напісаў сцэнарый для мастацкага фільма, дзе прысутнічаюць кроў, слёзы і каханне.

Фільм здымае галівудскі рэжысёр **Джэф Канф** (на тым тыдні па тэлебачанні ішоў яго фільм "Дэтэктыў Варшаўскі"), таксама ён зняў кінастужкі "Крутыя хлопцы", "Атрад Беверлі Хілс". У галоўных ролях Кірк Дуглас ("Спартак"), Барбара Дэросі ("Спрут-1").

Масавыя сцэны здымае расійскі рэжысёр **Астрахан** ("Зал ожидания"). Памочнікам па рэквізіце ў яго працуе віляйчанін **Леанід Курц.**

– Лёня, не цяжка працаваць з зоркамі такой велічыні?
– Гэта ўжо не першы мой фільм, таму не страшна. Да таго ж, "не святыя гаршчкі лепяць".

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ СУВЯЗІ

## JAZZ BAND у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў горад прыехаў джазавы калектыў "JAZZ BAND" з нямецкага Эслінгена.

З 4 канцэртаў адзін прайшоў 1 мая ў гарпарку, другі – 3 мая ў САШМ. У складзе калектыву – 12 навучэнцаў гімназіі імя Тэадора Хойса.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



***Паэтычны край Купалы,***
***край цудоўных фестываляў.***
***І пад гуслі тых вякоў***
***запрашаем землякоў!***

МАЛАДЗЕЧНА. 5-га мая ў Чысцінскай дзіцячай музычнай школе адбудзецца І-ы адкрыты раённы фестываль "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы".

У фестывалі бяруць удзел выканаўцы дзіцячых музычных школ, школ мастацтваў Маладзечанскага, Любанскага, Валожынскага, Салігорскага і Лагойскага раёнаў

10-00 – **урачыстае адкрыццё Першага адкрытага раённага фестывалю "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы"**
10-30 – **знаёмства з выстаўкай "Край хараства і непаўторнага майстэрства**
11-00 – **праслухоўванне сольных праграм**
14-00 – **праслухоўванне ансамбляў**
17-00 – **урачыстае закрыццё фестывалю**
– **падвядзенне вынікаў фестывалю**
– **узнагароджванне пераможцаў**

**Аргкамітэт фестывалю**

### Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, май**

4 – 6 **"Халасцяк"** (прэм'ера), камедыя, ЗША 15-00, 19-00, 21-00
**"Зацяжны скачок"**, баявік, ЗША (на відэасістэме) 17-00
9 мая – **"Ішоў чацверты год вайны"** (да Дня Перамогі) 13-00
7 – 13 **"Раманавы – венцаносная сям'я"** (прэм'ера), 2 серыі, гістарыч. драма, Расія 15-00, 17-30
**"База-2"**, баявік, ЗША 22-00
**"Ландыш серабрысты"**, лірыч. камедыя, Расія 20-00

**Для дзяцей**

6 – **"Мулан"** 13-00



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

## Чытаем «РГ»

Вы любіце сустракацца па пятніцах з нашай газетай? Зрабіце гэтыя сустрэчы рэгулярнымі – падпішыцеся на "Рэгіянальную" ў любым паштовым аддзяленні. Мы жа абяцаем вам і ў далейшым заставацца вернымі праўдзе. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "Рэгіянальную газету".

Вас чакаюць знаёмыя і новыя рубрыкі і аўтары.

Да сустрэчы ў наступную пятніцу.

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска** *індэкс 63212*
**на чэрвень** – 610 руб.

**Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ)** *індэкс 63369*
**на чэрвень** – 1968 руб.




Фота Яўгена СТАЛЬМАХА.

Памідоры і агуркі сталі ўжо звыклымі на рынках рэгіёна. Маладзечна, серада.

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Ці давяраць дзяржаве

Нацбанк у апошні час пачаў узмоцнена рапартаваць пра свае поспехі і дасягненні ў галіне праводзімай ім крэдытна-грашовай палітыкі. Апублікаванае чарговае афіцыйнае паведамленне пра стан спраў у фінансавай сістэме краіны, у якім даводзяцца дадзеныя пра чарговы рост валютных рэзерваў, рост дадатнага сальда ў знешнім гандлі, пра стабільнасць курсу і нават пра зніжэнне ў 2 разы інфляцыі ў параўнанні з I кварталам мінулага года. Частата падобных пераможных рапартаў наводзіць на думку, ці не хаваецца за ўсім гэтым штосьці.

Паспрабуем разабрацца хаця б з палітыкай прыцягнення ўкладаў насельніцтва. Толькі за першы квартал дэпазіты насельніцтва выраслі на 25%, у тым ліку, уклады ў рублях – на 67%, а валютныя ўклады знізіліся амаль на 1% і складалі на 1 красавіка адпаведна 188 мільярдаў рублёў і 250 мільёнаў долараў. Асноўная прычына росту рублёвых укладаў і зніжэння валютных заключаецца ў праводзімай дзяржавай палітыцы стабілізацыі курсу рубля і палітыцы падтрымлівання рэальных дадатных ставак (калі працэнт, што выплачваецца па ўкладзе, перавышае тэмп росту інфляцыі і курсу долара).

Сродкі насельніцтва складаюць усяго 8% ад сумарных абавязацельстваў банкаўскай сістэмы, у некаторых банках іх доля большая. Аднак, у адрозненне ад рэштак на рахунках суб'ектаў гаспадарання, якія пастаянна карыстаюцца сваімі грашыма, грамадзяне свае грошыкі размяшчаюць надоўга і практычна не здымаюць, а пастаянна пераафармляюць уклады на новыя тэрміны. Менавіта таму банкі і змагаюцца за сродкі грамадзян: ідзе канкурэнцыя ставак, відаў укладаў, тэрмінаў прыцягнення, усемагчымых умоў і нават даходзіць справа да розыгрышу прызоў.

Аднак ці варта давяраць банкам і дзяржаве, што стаіць за імі, свае зберажэнні? Яны ж прымаюць нашыя грошы не для сябе, не для таго, каб плаціць зарплату сваім работнікам. Грошы прыцягваюцца ў інвестыцыі, без якіх амаль задыхаецца эканоміка краіны. Чым больш прыцягваюць банкі сродкаў насельніцтва, значыць, тым больш можа быць выдаткавана на інвестыцыі пад рашэнне дзяржаўных задач. Часцей – для кароткатэрміновых праектаў: пад закупку харчавання, пад пасяўную ці проста на падтрымліванне калгаснага ладу.

Карацей, банкі за кошт нашых з вамі грошыкаў выдаюць крэдыты прадпрыемствам. І атрымаем мы свае грошы толькі ў тым выпадку, калі ўсе пазычальнікі своечасова пагашаюць свае пазыкі і плацяць працэнты банку. Аднак пратэрмінаваная запазычанасць банкаў па крэдытах расце – у некаторых яна дасягае 10% усёй сумы выдадзеных крэдытаў. Што ставіць пад сумненне 100%-ую гарантыю вяртання банкамі нашых укладаў.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ГАНДАЛЬ

# План выканалі, страты засталіся

МАЛАДЗЕЧНА. План па розничным тавараабароце за I квартал прадпрыемствы гандлю выканалі, але работу выканкам прызнаў недастатковай.

ААТ "Маладзечнаграмхарч" спрацавала са стратамі 19,2 мільёна, а ААТ "Маладзечнагандаль" – 15,4 мільёна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Сведкаў ДТЗ, што адбылося 1.12.1999 года а 16-й гадзіне ля вёскі Белая Смаргонскага раёна, просім патэлефанаваць адвакату юркансультацыі Маладзечанскага раёна Мачалову Уладзіміру Мікалаевічу па тэл. у Маладзечне 70001.**

■ КАРОТКА

● З цяперашняга лета на рынку могуць рэзка падаражэць бананы. Згодна з новым расійскім ГОСТам (асноўная маса гэтага прадукту, які зрабіўся ўжо звыклым, завозіцца, як ні дзіўна, адтуль), бананы гатунку Экстра павінны мець дыяметр не меншы за 4 сантыметры і даўжыню звыш за 20 сантыметраў. Экспарцёры, якія не змогуць пастаўляць тавар канкрэтных гатункаў і памераў, будуць выдвараныя з рынку. І, з-за слабай прапановы і нізкай канкурэнцыі прадаўцоў, тавар можа калі і не знікнуць з рынку, то хаця б падаражэць.

● Мы даўно ўжо прывыклі, што паўсюль у салідных установах і канторах указаныя нумары тэлефонаў, па якіх можна выказацца пра набалелае (ад банкаўскага абменніка да лазні, цырульні або магазіна).

У адміністрацыі прэзідэнта створаная прамая лінія, па якой можна патэлефанаваць і выказацца аб рашэнні аграрных праблем сяла ў канкрэтнай гаспадарцы або рэгіёне ці нават прапанаваць свае варыянты іх рашэння. Для жадаючых прыводзім нумар тэлефона: 2223217. Стукаць можна з 9 да 18.

● Згодна з прынятым нядаўна рашэннем Мінгарсавета, Мінск зноў робіцца закрытым горадам. Грамадзяне Беларусі, што не пражываюць у Мінску, набываюць жыллё ў сталіцы толькі з дазволу мэрыі. Гэта будзе тычыцца жылля ў дамах усіх формаў уласнасці. Уводзіцца і яшчэ адно абмежаванне – купля і абмен жылля могуць быць дазволеныя толькі калі на кожнага чалавека даводзіцца не менш за 15 квадратных метраў агульнай плошчы. Падобнае рашэнне ўжо прымалася раней, але было адменена Канстытуцыйным судом.

● Прэзідэнтам краіны была праведзеная нарада па павышэнні ўзроўню аховы здароўя ў галіне практычнай флюараграфіі, якая з'яўляецца практычна адзіным метадам выяўлення туберкулёзу на ранняй стадыі. Хаця зношанае абсталяванне і адсутнасць плёнкі, што стала звычайнай з'явай, наўрад ці дапамогуць узняць узровень здароўя нацыі.

● У вельмі хуткім часе з продажу можа быць знятае піва "Монастырский шепоток". Расійскія царкоўныя дзеячы патрабуюць увесці забарону на выкарыстанне рэлігійных назваў для алкагольных напіткаў. На іх думку, назвы са словамі "манах" ці "манастырская" з'яўляюцца зневажальнымі і кашчунскімі. Сярод камерсантаў царкоўная цэнзура выклікала буру пратэстаў.

● Даволі пільнай застаецца беларуская мытня. Толькі за месяц выяўлена 1180 фактаў парушэнняў мытнага заканадаўства. Канфіскавана тавараў і каштоўнасцяў на суму больш за 3 мільёны рублёў. Зафіксавана 7 выпадкаў кантрабанды валюты: у парушальнікаў адабрана 151 тысяча долараў, 108 тысяч нямецкіх марак. Прадухілены вываз за мяжу 9 ікон XIX стагоддзя, кошт якіх – каля 1,5 мільёна рублёў. Адзін літовец спрабаваў незаконна перавезці праз мяжу 26330 долараў, яго напарнікі – па 7 тысяч зялёных. Сярод кантрабандыстаў-валютчыкаў – літоўцы, расіяне і беларусы. Палякаў, немцаў і французаў у спісе парушальнікаў няма.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 26 красавіка | 3 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1323,00 руб. | 1334,00 руб. |
| Нямецкая марка | 603,15 руб. | 607,28 руб. |
| Літ | 330,82 руб. | 333,58 руб. |
| Расійскі рубель | 45,78 руб. | 46,27 руб. |
| Злоты | 328,08 руб. | 337,89 руб. |
| ЕЎРА | 1179,65 руб. | 1187,73 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1350 – 1380 руб. | 1360 – 1380 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 25.04 | 2.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1980 | 2180 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6500 | 6169 |
| Сасіскі, 1 кг | 2160 | 1750 |
| Селядзец, 1 кг | 1550 | 1550 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 500 |
| Грэчка, 1 кг | 470 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 568 | 565 |
| Алей, 1 л | 720 | 720 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 750 | 750 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 250 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 230 | 240 |
| Капуста, 1 кг | 350 | 360 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1100 |



«Хіт тыдня» на рынках – радыс

Фота Яўгена СТАЛЬМАХА.

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 900 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 950 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 450 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 850 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 800 |
| Морква, 1 кг | 350 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 450 | 430 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 500 | 500 |
| Пятрушка, 1 пучок | 150 | 150 |

# Новыя валожынскія кілбасы

**ВАЛОЖЫН. Кілбасны цэх унітарнага прадпрыемства "Кааппрам" выпусціў пробную (каля тоны) партыю сыравэнджанай кілбасы "Дзяржынская".**

На яе выпуск прадпрыемства атрымала сертыфікат якасці. Неўзабаве вытворчасць такіх кілбас пойдзе "на паток".

А пробная партыя разышлася хутка. Каля 5 тысяч рублёў за кілаграм (мінскія "аналагі" тут каштуюць 7–9 тысяч) прыйшліся даспадобы валожынцам.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

# Спажывецкія тавары ў мінусе

**МАЛАДЗЕЧНА. На 53,5% меней, па выніках першага квартала, выраблена ў горадзе харчовых тавараў.**

Не выконваецца план па выпуску тавараў народнага спажывання. За квартал тэмп росту 91,4% (замест 105,6%). Прыбаўка зафіксаваная па нехарчовых таварах і таварах лёгкай прамысловасці.

З 23 спецыялізаваных прадпрыемстваў 11 не дасягнула прагнозных паказчыкаў, а 8 – узроўню мінулага года.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Жанчыны вучацца прадпрымальніцтву

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Камарова дэкан факультэта жаночага інстытута ЭНВІЛА **Антаніна Пажыдаева** і кіраўнік праграмы фонду Counterpart **Раіса Сінельнікава** правялі двухдзённы трэнінг па асновах прадпрымальніцтва для жанчын.

Навучаліся, як стаць прадпрымальнікамі, сябры мясцовага аб'яднання «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю» ды іншыя зацікаўленыя. Трэнінг жанчынам спадабаўся.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ РЦГІЭ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Пра якасную пітную ваду

**МАЛАДЗЕЧНА. Асноўнымі крыніцамі водазабяспячэння насельніцтва Маладзечаншчыны з'яўляюцца шахтавыя калодзежы (30,8% насельніцтва раёна выкарыстоўваюць ваду з калодзежаў). З 7512 калодзежаў – 7296 індывідуальных і толькі 216 грамадскіх.**

Для шахтавых калодзежаў трэба выбіраць месцы на незабруджаным участку, які аддалены не менш чым на 50 метраў ад існуючых ці магчымах крыніц забруджвання (памыйных ям, надворных прыбіральняў і сметнікаў, каналізацыйных збудаванняў). Шахтавыя калодзежы не павінны рабіцца на ўчастках, якія затапляюцца паводкавымі водамі, у забалочаных месцах, а таксама бліжэй за 30 метраў ад магістральных вуліц ці дарог.

Але, на жаль, на практыцы гэтыя патрабаванні выканаць звычайна немагчыма не толькі з-за невялікіх памераў участкаў, што выдзяляюцца пад індывідуальныя забудовы, але таксама з-за няведання ўладальнікамі гэтых умоў. Таму прад'яўляюцца жорсткія патрабаванні да абуладкавання шахтавых калодзежаў.

Так, агаловак (наземная частка калодзежа) павінен быць не менш, чым на 0,7 метра вышэйшы за паверхню зямлі. Ён павінен мець накрыўку і зверху прыкрывацца навесам або памяшчацца ў будку. Па перыметры павінен быць зроблены "замок" з гліны, глыбінёй 2 метры і шырынёй 1 метр, а таксама адмостка з каменю, бетону або асфальту, радыусам не менш за 2 метры.

Таксама памятайце і пра правілы забору вады: пад'ём вады рабіць агульным вядром або выкарыстоўваць помпы разнастайных канструкцый, што з гігіенічнага пункту гледжання з'яўляецца найбольш прымальным.

Спецыялісты Маладзечанскага райЦГіЭ пастаянна адзначаюць неадпаведнасць шахтавых калодзежаў указаным вышэй патрабаванням. І, як вынік гэтага, – пастаяннае забруджванне вады.

Па дадзеных лабараторных даследаванняў вады, адабранай летась з індывідуальных калодзежаў Маладзечаншчыны, з 295 пробаў 22,4% не адпавядаюць патрабаванням па бактэрыялагічных і хімічных паказчыках.

Штогод увесну неабходна праводзіць прафілактычную ачыстку шахтавых калодзежаў. Калодзеж поўнасцю вызваляюць ад вады, чысцяць ад пабочных прадметаў, што трапілі ў яго, і глею. Сценкі шахты абчышчаюць механічным шляхам ад абрастанняў і забруджванняў. Затым вонкавую і ўнутраную часткі шахты арашаюць 5% растворам хлорнай вапны.

Для дэзінфекцыі калодзежа вытрымліваюць час, на працягу якога калодзеж зноў запаўняецца вадой, вызначаюць аб'ём вады ў ім ($м^3$) і ўносяць неабходную колькасць раствору хлорнай вапны з разліку 100–150 г актыўнага хлору на 1 $м^3$ вады ў калодзежы. Затым перамешваюць 10 хвілін, калодзеж закрываюць накрыўкай. Ваду з яго ў гэты час браць нельга. Праз 6 гадзін астаткавы хлор у вадзе вызначаюць па паху. Пры адсутнасці астаткавага хлору ў ваду дадаюць 0,25 першапачатковай колькасці дэзінфіцыруючага прэпарату і вытрымліваюць яшчэ 3–4 гадзіны.

Пасля паўторнай праверкі на наяўнасць астаткавага хлору і станоўчых вынікаў такой праверкі, праводзяць пампоўванне вады да знікнення рэзкага паху хлору, і толькі пасля гэтага ваду можна выкарыстоўваць для пітных мэтаў.

**Аляксандра ДАНСКАЯ, урач-гігіеніст аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага райЦГіЭ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Няма вады лепшай, як са сваёй студні. Але ж догляду яна патрабуе.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Рашае мясцовая вертыкаль

**Прэзідэнцкія выбары, што маюць адбыцца праз колькі месяцаў, мусяць паказаць, сярод іншага, дзве рэчы. Наколькі існуючая ўлада здольная кіраваць грамадствам, трымаць пад кантролем усё і ўсіх. Другое – стаўленне людзей да зменаў у краіне.**

Падчас барацьбы за ўладарнае крэсла ў ход ідуць усе прыёмы і тэхналогіі. Шанцаў, натуральна, больш у існуючай улады. Яна летась правяла досыць салідную і маштабную акцыю па выбарах у "палатку". Гэта былі не столькі выбары, колькі праверка ўсіх вінцікаў ад нізоў да вярхоў на "преданность".

Апазіцыя тады прайграла. Уладатрымаючыя ідуць на прэзідэнцкія выбары з прадчуваннем перамогі. Сёння ў іх руках усе казырныя карты: тэлебачанне, радыё, газеты з вялізнымі накладамі, адданыя вертыкальшчыкі. І ўсё гэта, заўважце, з дня ў дзень працуе, як адзін зладжаны механізм, на перамогу Лукашэнкі.

Добра вымалёўваецца стаўленне да ўсяго гэтага з боку Расіі. Менавіта расійскія тэлеканалы пачалі "раскрутку" цяперашняга прэзідэнта падчас яго візітаў. Гэта дае падставы зрабіць высновы, на каго збіраецца паставіць на прэзідэнцкіх выбарах Расія. З дня ў дзень расійскія тэлеканалы будуць паказваць Лукашэнку і гаварыць пра яго, як адзінага чалавека, здольнага кіраваць нашай краінай. Гэтага будзе дастаткова для перамогі.

Што ж у гэтай сітуацыі можа дапамагчы апазіцыі ці адзінаму кандыдату ад яе? Відавочна, шанцы на перамогу ўжо нават цяпер у апазіцыйных сіл зведзеныя амаль да нуля. Прычына схаваная ў тых самых мінулагодніх выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Менавіта пасля іх заканчэння наўрад ці былі зробленыя высновы. Нават сёння ў апазіцыі няма адзінага кандыдата. Многія хацелі б ведаць, вакол каго яднацца, – **Домаша, Казлоўскага, Ганчарыка** і інш., каб змяніць жыццё ў лепшы бок. Інакш "байкоты", назіранні за выбарамі, маршы свабоды і шэсці будуць марныя. Час паказаў, што большасць да гэтага ставіцца абыякава.

Дапамагчы апазіцыі могуць хіба толькі "вертыкальшчыкі". Хаця яны і бяруць "пад казырок" перад Лукашэнкам, але многія (калі не большасць) разумеюць правальнасць ягонага кіравання. З іншага боку, яны не жадаюць страчваць уладу, цёплыя катэджы і крэслы, а таму запатрабуюць ад падначаленых правесці выбары "як трэба".

Хаця, калі б апазіцыя з імі дамовілася і дала пэўныя гарантыі, то шанцы ў яе кандыдата былі б вельмі высокія. Наіўна меркаваць, што вынікі выбараў залежаць ад таго, за каго прагаласуе народ. На мой погляд, ён залежыць ад рашэнняў мясцовых "вертыкальшчыкаў".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ПАШПАРТНА-ВІЗАВАЯ СЛУЖБА

# Парадак выезду ва Украіну

**МІНСК. Сёлета захоўваецца ўстаноўлены парадак выезду беларускіх грамадзян ва Украіну. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў начальнік упраўлення пашпартна-візавай службы Міністэрства ўнутраных спраў палкоўнік Сяргей Стэсік.**

Па-ранейшым, для выезду ва Украіну застаюцца сапраўднымі 4 дакументы:

1. Пашпарт грамадзяніна СССР узору 1974 года, у якім ёсць адзнака аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь.
2. Замежны пашпарт СССР, афармлены для выезду за мяжу.
3. Пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1996 года як афармлены для выезду за мяжу, гэтак і не афармлены для выезду за мяжу.
4. Пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь з гербам «Пагоня».

Калі дзецям менш за 16 год, то яны для выезду ва Украіну павінны быць унесеныя ў замежны пашпарт бацькоў, або мець нацыянальны пашпарт, афармлены для выезду за мяжу.

Дзеці могуць выязджаць ва Украіну і групамі па заяўцы, засведчанай у падраздзяленні пашпартна-візавай службы. Але афармляць групы на выезд і падаваць гэтыя дакументы маюць права толькі тыя арганізацыі, у якіх ёсць ліцэнзіі на ажыццяўленне турыстычнай дзейнасці і вываз грамадзян на аздараўленне.

## Пашпарт-1974

Ужо сёлета МУС наважаны падрыхтаваць праект урадавага рашэння па абмежаванні дзеяння пашпарта узора 1974 года.

– Пасля дакументавання 50% насельніцтва дзяржава мае права вызначыць тэрмін дзеяння дакумента, які падлягае замене, – заявіў С. Стэсік.

Што тычыцца тэрміну заканчэння дзеяння пашпарта грамадзяніна СССР, то ён яшчэ канчаткова не вызначаны. Гэта можа быць або 1 студзеня 2003 года, або 1 студзеня 2004 года, або 1 студзеня 2005 года — усё будзе залежаць ад сітуацыі з выдачай нацыянальных пашпартоў узору 1996 года. Дзеянне замежнага пашпарта грамадзяніна СССР заканчваецца 31 снежня 2001 года.

– Сёння пашпартызацыя ўступіла ў фазу актыўнага затухання, — гаворыць С. Стэсік.

Паводле звестак узначальваемага ім упраўлення, сёння ў краіне выдадзена больш за 5,5 мільёна нацыянальных пашпартоў. Гэта значыць, амаль 54% насельніцтва ўжо маюць новы пашпарт. У Мінску новы дакумент займелі 60% жыхароў.

Не маюць яго цяпер, у асноўным, вяскоўцы і людзі сталага ўзросту — пасля 65—70.

На руках у грамадзян застаюцца яшчэ і пашпарты з гербам «Пагоня», якіх у свой час выдалі каля 180 тысяч. Яны будуць сапраўдныя да ўказанай у іх даты.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ МЕДЫЦЫНА

# Ахвяры Венеры

**СМАРГОНЬ. Улады занепакоеныя ростам захворваемасці на сіфіліс. Смаргоншчына ўстойліва займае апошнія гады першае месца ў вобласці па колькасці хворых на гэтую венерычную хваробу. За апошнія 6 год у раёне перахварэлі сіфілісам 590 чалавек, за 2000 год – 116. І гэта пры тым, што ў іншых раёнах гэтыя паказчыкі зніжаюцца.**

Сярод тых, хто хварэў у мінулым годзе, – 59 мужчын і 57 жанчын. Гэтаму захворванню падвяргаюцца ўсе ўзроставыя слаі жыхароў раёна: і 14-гадовыя дзяўчаты, і 16-гадовыя хлопцы, і двое мужчын ва ўзросце 78 і 92 год. Дзве школьніцы, што праходзілі лячэнне, назвалі 36 сексуальных партнёраў! Іх таксама выявілі і абследавалі.

Павялічваецца захворваемасць на сіфіліс у сельскай мясцовасці. За 5 год доля сельскага насельніцтва сярод тых, хто захварэў, павялічылася з 4 да 20%.

Венерычныя захворванні – прамы шлях да захворвання на СНІД. А "чума XX стагоддзя" распаўсюджваецца па Гродзеншчыне. Імкліва расце колькасць ВІЧ-інфіцыраваных у Лідзе. Там прымаюць усе меры, каб горад не стаў "другім Светлагорскам".

У Смаргоні абследаванню падвяргаюцца ўсе "групы рызыкі": п'яніцы, бамжы, праваparушальнікі.

Большасць мужчынскага насельніцтва раёна адпраўляецца на заработкі за мяжу. Медыцынскае абследаванне праходзяць толькі тыя, хто выязджае афіцыйна. А абследаванне па вяртанні наогул не праводзіцца.

Іншаземцы абследуюцца пры выездзе на пастаяннае жыхарства. А тыя, хто часова прабывае, не абавязаныя прадастаўляць даведкі пра стан свайго здароўя. Вось гэта адна з асноўных праблем у прафілактыцы сіфілісу.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

 



■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Чарговая бронза «Металурга-JP»

## або 5:5 у апошнім тайме чэмпіянату

**29.04 Дарожнік (Фаніпаль) – Металург-JP 6:6 (1:1)**

**Суддзі:** Місючэнка, Лазнюха (абодва – Мінск).

**Галы:** Шаўчэнка (8, 34), Янель (27, 36), Казяк (30), Сіткевіч (37); (12), (28), (32), (35), (35), (37).

**Склад:** Кіркіж; Агейчык, Кузняцоў, Сіткевіч, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Шаўчэнка; Максімаў, Снятко, Бахур.

Тактыка паўпрэсінгу дазволіла маладзечанскім футбалістам мець перавагу напачатку матча і павесці ў ліку. Бліжэй да перапынку гульня выраўнялася, удалося саперніку зраўняць і лік.

Тое, што адбывалася ў другім тайме, – рэдкая з'ява нават для міні-футбола: па 5 мячоў забілі абедзве каманды. Маладзечанцы ўвесь час вялі ў ліку – 2:1, 3:2, 4:3, аднак сапернік тут жа даганяў.

Прычыны слабых дзеянняў абароны з абодвух бакоў, відаць, у стомленасці ды і ў жаданні ў гэтым апошнім матчы чэмпіянату згуляць у адкрыты футбол, поўнасцю прадэманстраваць свае здольнасці. Хаця ж стаўка была высокая, перамога давала фаніпальцам трэцяе месца.

Пасля незразумелага суддзейскага рашэння не зафіксаваць фол супраць **Кіркіжа** (ён быў бы шостым для "Дарожніка"), што выклікала буру эмоцый, сапернікі забілі і самі павялі ў ліку 5:4. Маладзечанцы працягвалі змагацца, двойчы забілі (адметна дзейнічалі **Шаўчэнка і Сіткевіч**) і зноў вырваліся наперад 6:5. Аднак хутка стала 6:6, праціўнік зняў варатара, а пасля фола **Янеля** ў нашы вароты быў прызначаны 10-метровы, удар з якога прыйшоўся ў перакладзіну.

Галоўны трэнер **Сяргей Сафонаў** і не прыпомніць у сваёй практыцы такога напружанага заканчэння матча. Ён адзначае, што камандзе ўдаецца гульня ў атацы – як індывідуальныя імправізацыі, так і схематычныя дзеянні. Абарона ж дапускае шмат памылак, і ў гэтай сустрэчы 4 галы з 6 прывезлі сабе, што называецца, самі.

Хаця мінулагодні ўзровень маладзечанцы захавалі, стаць чэмпіёнамі яны не здолелі. Барацьба на верхніх радках табліцы значна ўскладнілася.

Хемікс – ЦКК 5:1, МАПІД – МЭСР 4:2, Гарняк – Энергетык 10:5, РТІ – БДПА 2:10, Верас – Белаўтасервіс 1:4, Сімург – Віцязь 12:3.

| | |
|---|---|
| 1. Сімург | 62 |
| 2. Белаўтасервіс | 62 |
| 3. Металург-JP | 59 |
| 4. Дарожнік | 57 |
| 5. Хемікс | 56 |
| 6. Верас | 47 |
| 7. МАПІД | 40 |
| 8. ЦКК | 35 |
| 9. Энергетык | 29 |
| 10. Гарняк | 22 |
| 11. МЭСР | 20 |
| 12. БДПА | 16 |
| 13. РТІ | 11 |
| 14. Віцязь | 10 |

**Бамбардзіры**: Дзядзюля (Дарожнік) – 57; Лагутка (Белаўтасервіс) – 51; **Янель** – 37.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

# Першы гол

**28.04 Дынама (Мінск) – Маладзечна-2000 3:1(1:1)**

**Галы:** Ласоўскі (45), Ганчароў (70), Качура (86); Турчыновіч (5).

Арбітр – Кунцэвіч (Гродна).

Турчыновіч Макрыцкі (Сідарэнка, 46)
Міхалёў (кап.)
Тартоўскі Вільтоўскі
Багайчук
Кабельскі
Бычкоўскі Азаронак
Муравейнікаў
Рубацкі (Сцепановіч, 46)

**Папярэджанні** ў складзе "Маладзечна" – Азаронак, Макрыцкі.

**Лепшы** па версіі "РГ" – Турчыновіч.

Напачатку сустрэчы лік сёлетнім галам "Маладзечна-2000" адкрыў **Турчыновіч**. На перадачу ў штрафную першы адгукнуўся **Макрыцкі**, але не трапіў, як след, па мячы. Зрэзаўшыся, сфера прыляцела да Турчыновіча, які забіваў адным крананнем метраў з сямі.

На жаль, у перапынку давялося замяняць **Аляксея Рубацкага**, бо ён ледзь мог рухацца – хутчэй за ўсё, атрымаў невялікае змяшчэнне пазванкоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ТУРЫЗМ

МАЛАДЗЕЧНА. На базе клуба "Пілігрым" прайшлі абласныя курсы па падрыхтоўцы інструктараў школьнага турызму. Пад заканчэнне дзве групы слухачоў рушылі ў водны і веласіпедны паходы першай катэгорыі складанасці.

Загадчык аддзела турызму цэнтра фізічнага выхавання, спорту і турызму школьнікаў Мінаблвыканк **Зоя Новікава** адзначыла добрую арганізацыю курсаў і паходаў.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ КОННЫ ТУРЫЗМ

МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным парку «Нарачанскі» пачынаюць развіваць конны турызм. Для гэтых мэтаў у вёсцы Сіманы абсталяваная стайня, закуплены коні і вупраж. Цяпер набіраюць дзяцей для бясплатнага навучання вальтыжыроўцы (гімнастыцы на бягучым кані).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ФУТБОЛ

**27.04 Дынама (Мінск, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 4:1 (1:1)**

**Галы:** (13), (44), (51-пен), (89); Млечка (90).

**Склад:** Сцепановіч, Відрук, Дрозд, Дараховіч, Мігас (Лужынскі, 46), Лявончык (Абановіч, 80), Антановіч (Грыхуцік, 46), Карпіленка (Сідарэнка, 46), Смірноў, Чарнель, Млечка.

З 4 ачкамі пасля трох тураў маладзечанцы знаходзяцца на дзесятым месцы ў турнірнай табліцы. Супраць дынамаўскага дубля гуляць было вельмі складана, бо там сабраныя лепшыя футбалісты і з "Дынама-Юні", і з "Дынама-2". Прыкладам, першыя тры галы забіў **Ледзянёў**, які выходзіць у аснове нашай моцнай маладзёжнай зборнай.

**Чвэрцьфіналы Кубка Беларусі.** Матчы ў адказ. **Дынама (М)** – Шахцёр 3:2, **Белшына** – Гомель 3:1, Тарпеда-Кадзіна (Д2) – **Ведрыч-97** 0:2, БАТЭ – **Славія** 1:3.

**Кантрольная сустрэча.** 02.05. Чысць. Забудова – Маладзечна 1:5 (1:3). Галы: Урублеўскі; Макрыцкі і Чарнель – па 2, Багайчук.

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

З улікам няўдалых сезонаў 1998 і 1999 гадоў, праведзеных у вышэйшай лізе, працягваюцца дзве антырэкордныя серыі маладзечанскага клуба.

Ужо 28 матчаў без перамог дома (антырэкорд для ўсіх клубаў). Апошняя была атрыманая амаль тры (!) гады таму 22 мая 1998 года над слонімскім "Камунальнікам". Калі не ўдасца выйграць 6 мая ў гамяльчанаў, тады акурат 22 чысла гэта можна зрабіць у матчы з навапалачанамі.

4 матчы запар маладзечанцы не забівалі дома (ранейшы антырэкорд – 3). Перарвалася ў сустрэчы з "Шахцёрам" на адзнацы ў 17 матчаў серыя з прапусканнем галоў дома (ранейшы антырэкорд – 14).

Яшчэ доўжацца серыі (у дужках указваюцца рэкордныя) з 9 матчаў без перамог (15), 7 матчаў без нічыіх у гасцях (10), 4 паражэнняў запар у гасцях (6), 4 матчаў без перамог у гасцях (9), 6 матчаў з прапусканнем галоў у гасцях (11).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПРЫКЛАДНЫ СПОРТ

МАЛАДЗЕЧНА. 4–6 мая пройдзе спартакіяда Мінскай вобласці сярод дапрызыўнай і прызыўной моладзі па прыкладным фізкультурна-спартыўным комплексе "Абаронца Айчыны".

28 каманд (юнакі 15–18 год) паспаборнічаюць у гімнастыцы, бегу на 100 м, кіданні гранаты, плаванні і кросе на 3000 м.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Ці забіў бы Карпіцкі пенальці «Смаргоні»?

**Забудова – Смаргонь 0:2 (0:0)**

**Галы**: Селіванаў (48), Шаблінскі (92+).

"Забудова": Андр. Канапелька, Чумак, Ал. Канапелька, Булаты (Татун, 83), М. Мятліцкі, Балыкін, Д. Мятліцкі (Ракса, 58), Садчанка (Казлоўскі, 51), Урублеўскі, Дзіковіч (кап.), Мацюк.

"Смаргонь": Шэлест (кап.), Іваноў, Шагойка, Курак, Якубіцкі, Шпілеўскі (Максіменка, 90), Дукса (Відук, 62), Селіванаў, Чарнуха, Каўрыга (Шаблінскі, 79), Шпакоўскі.

На 56 хвіліне Мацюк (Забудова) не рэалізаваў пенальці.

У першым тайме каманды зусім не радавалі дакладнымі перадачамі і вострымі момантамі. Толькі раз пасля памылкі абаронцы гаспадароў **Шпакоўскі** выйшаў сам-насам з нядаўнім партнёрам варатаром **Канапелькам** па левым краі, аднак прабіў міма далёкай штангі.

Перапынак быў цікавы конкурсам пенальцістаў, што арганізавалі забудоўцы. Прабіваць іх запасному варатару ўзяліся сем балельшчыкаў, і тры з іх былі дакладныя. Другі ўдар рэалізавалі двое, сярод якіх застаўся і карэспандэнт "РГ" **Юрый Карпіцкі**. Трэцяя спроба зноў удалая для абодвух (Карпіцкі ўвесь час біў у левы ніжні кут), а вось у чацвертай пасля промаху канкурэнта Юрый захацеў пакатаць нервы прысутным і адправіў мяч нямоцна ў рукі галкіперу. Пяты ўдар ізноў быў няўдалым для чысцінца, Карпіцкі ж дакладна біў у правы ніз і атрымаў прызавую бутэльку шампанскага.

Ажывіў падзеі другога тайма хуткі гол смаргонцаў, калі **Селіванаў** з-за межаў штрафной моцна стрэліў нізам у правы кут. Гаспадары актывізаваліся. Завадатарамі сталі дасведчаныя **Дзіковіч**, **Урублеўскі** і **Казлоўскі**. Перапасоўка на правым фланзе прывяла да падножкі **Д. Мятліцкаму**, які ўвайшоў у штрафную. Пенальці **Мацюк** прабіў няўдала: у рукі **Шэлесту**, **які** ўпаў ужо ў правы бок ад яго. Калі б Карпіцкі не быў патрэбны "РГ", то рэдакцыя, мусіць, магла б зарабіць грошы на трансферы ў "Забудову".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Капітана «Забудовы» Віталя Дзіковіча смаргонцы «уронили». Як і ўсю чысцінскую каманду.**

Кропку ў заканамерны зыход матча паставіў "Бэтмен" **Шаблінскі**, які прабіў пад перакладзіну галавою з адхіленнем корпусу пасля добрага навесу справа Селіванава.

Баранавічы – Змена 5:0, Верас – Вейна 3:0, Трактар – Палессе 3:1, Старыя Дарогі – Днепр 0:1, Вертыкаль – СКВІЧ 1:1, Пінск-900 – Працоўныя рэзервы-РІПА 3:2, РВАР – Энергія (Рудзенск) 1:2, Дынама-2 – Гомель-2 3:3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ШАХМАТЫ

# Лідэры рэгіянальнага турніру

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля красавіцкага этапа, у якім усіх "раскатаў" дасведчаны Алег Дылеўскі, а другім і трэцім былі Андрэй Чаеўскі і Віктар Акотчык. У першую шасцёрку ўваходзяць:**

Віктар Акотчык (выкладчык палітэхнікума) - 24 ачкі, Алег Дылеўскі (прадпрымальнік) - 17, **Яўген Чаеўскі** (начальнік ЖРЭУ-1) - 12, **Аляксей Мурзін** (музвучылішча) - 12, Андрэй Чаеўскі (улікова-планавы тэхнікум) - 11, **Міхаіл Дыдзік** (выкладчык палітэхнікума) - 10.

Старэйшым усё цяжэй даваць бой маладым. Але добры кантроль па 10 хвілін на партыю адзначаюць усе ўдзельнікі. Ён дае шанц падумаць і не надта часта рабіць "вельмі дрэнныя хады".

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар FIDE.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

**Віктар Акотчык.**

**Сёння, 4 мая, адбудзецца пяты «Рэгіянальны» турнір, прысвечаны Дню перамогі. Пачатак у 17-30; вул. Забэйды-Суміцкага, 2, тэл. 71549, 54602.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**05.05, Беразінскае, 17-00. Матч дублёраў "Маладзечна-2000" і "Гомеля"**

**06.05, гарадскі стадыён, 17-00. "Маладзечна-2000" – "Гомель"**

+2=4-5 6-9. Апошні матч 26.09.99 на выездзе 1:3 (С. Кабельскі). Можна будзе набыць праграму матча, даведнік аб маладзечанскім футболе, шалікі з сімволікай клуба.

**06.05. Гомель-2 – Забудова**

